# МІЖНАРОДНЫ КОМУНІСТЫЧНЫ ЖАНОЧЫ ДЗЕНЬ—8 САКАВІКА

## ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Міжнародны дзень работніц—8 сакавіка ўстаноўлен па прапанове т. Клары Цэткін у 1910 годзе на міжнароднай конфэрэнцыі соцыялістак у горадзе Копэнгагене. Упяршыню дзень 8 сакавіка быў праведзен у 1911 годзе пад лёзунгам: «Выбарчыя правы работніцам, для аб'яднаньня сіл у барацьбе за соцыялізм».

У царскай Расіі з прычыны самай лютай рэакцыі першы міжнародны дзень работніц удалося правесьці толькі ў 1913 годзе.

Мэта дня «8 сакавіка»—мобілізацыя шырокіх мас работніц і ўсіх працоўных жанчын на стварэньне ядынага міжнароднага фронту клясавай барацьбы супроць імпэрыялізму, на пабудаваньне соцыялізму.



## МІЖНАРОДНЫ КОМУНІСТЫЧНЫ ЖАНОЧЫ ДЗЕНЬ У ПЕРШЫМ ГОДЗЕ 2-й ПЯЦІГОДКІ

Міжнародны комуністычны жаночы дзень праходзіць у гэтым годзе ва ўмовах, калі рабочая кляса СССР пад кіраўніцтвам бальшавіцкай пар-

тыі і яе ленінскага ЦК на чале з правадыром сусьветнага пролетарыяту т. **Сталіным** дабілася выкананьня пяцігодкі за чатыры гады.

Асноўнай задачай міжнароднага комуністычнага жаночага дня—8 сакавіка, які супадае з першым годам другой пяцігодкі—зьяўляецца згуртаваньне работніц, колгасьніц і аднаасобніц-бяднячак і серадьнячак вакол ленінскай комуністычнай партыі і яе правадыра т. **Сталіна,** мобілізацыяй іх увагі на баявое ажыцьцяўленьне задач пастаўленых студзеньскім пленумам ЦК і ЦКК УсеКП(б), далейшае ўзмацненьне інтэрнацыянальнай сувязі працоўных жанчын СССР з работніцамі і сялянкамі капіталістычных краін, якія вядуць барацьбу за пролетарскую рэволюцыю.

Тав. Сталін у сваім дакладзе «Вынікі першай пяцігодкі» на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б), ад 7 студзеня 1933 году адзначыў міжнароднае значэньне пяцігодкі.

> «Варта было нам прарабіць будаўнічую работу на працягу якіх-небудзь 2-3 год, варта было паказаць першыя посьпехі пяцігодкі, каб увесь сьвет раскалоўся на два лягеры—на лягер людзей, якія брэшуць на нас бяз стомы, і лягер людзей, якія зьдзіўлены посьпехамі пяцігодкі, не гаворачы ўжо аб тым, што ёсьць і ўзмацняецца наш уласны лягер ва ўсім сьвеце—лягер рабочай клясы капіталістычных краін, які радуецца посьпехам ра-

бочай клясы СССР і гатоў аказаць ёй падтрыманьне на страх буржуазіі ўсяго сьвету...

**... Посьпехі пяцігодкі мобілізуюць рэволюцыйныя сілы рабочай клясы ўсіх краін супроць капіталізму,**—такі бясспрэчны факт».

## ВЫНІКІ ПЕРШАЙ ПЯЦІГОДКІ

### 1. Створана ўласная перадавая тэхнічная база для соцыялістычнага перабудаваньня ўсёй народнай гаспадаркі

Былая адсталая, няпісьменная, дробнасялянская Расія, цяпер СССР, выйшла ў першыя рады найбольш разьвітых у тэхніка-экономічных адносінах краін. Закончана пабудаваньне фундаманту соцыялістычнай экономікі. Савецкі саюз з краіны аграрнай ператварыўся ў краіну індустрыяльную. Пабудаваны вялізарныя сусьветныя гіганты: Магнітабуд, Кузьнецкбуд, Уральскі медны комбінат, Волхаўскі алюмініёвы комбінат, Беразьнікоўскі комбінат, магутная Дняпроўская ГЭС, Зуеўская, Чалябінская і Штэраўская электрастанцыі, магутныя шахты ў Донбасе, Кузбасе і інш. і шмат іншых гігантаў.

Машынабудаўніцтва вырасла ў параўнаньні з 1927—28 годам у 4—5 разоў, а ў параўнаньні з даваенным часам у 10 разоў. Асвоен цэлы рад новых галін вытворчасьці, якіх ня было ў капіталістычнай Расіі (трактарабудаўніцтва, авіябудаўніцтва, аўтобудаўніцтва, станкабудаўніцтва,

будаўніцтва, радыёўстановак і інш.). Мы маем цяпер сваю хімічную прамысловасьць, сваю прамысловасьць сельскагаспадарчых машын, чаго раней у нас амаль ня было.

У вобласьці выпрацоўкі электрычнай энэргіі, у вобласьці здабываньня нафтавых продуктаў і вугалю СССР з апошняга месца, вышаў на адно з першых месц у сьвеце.

Мы стварылі новую вугальна-мэталюргічную базу на Урале.

Мы будзем мець у бліжэйшы час дзьве новых базы тэкстыльнай прамысловасьці—у Сярэдняй Азіі і ў Усходнім Сібіры. Уся продукцыя прамысловасьці вырасла ў параўнаньні з даваенным узроўнем амаль у 3½ разы. Продукцыя лёгкай прамысловасьці павялічылася да 187 проц. у параўнаньні з 1928 годам. Значна пашыран выраб тавараў шырспажыву.

## 2. Узмацненьне абароназдольнасьці Савецкага саюзу

Пабудаваньне сваёй уласнай машыннай індустрыі далёка прасунула Савецкі саюз уперад у справе ўзмацненьня сваёй незалежнасьці ад капіталістычных краін, у справе ўзмацненьня абароназдольнасьці.

Выкананьне пяцігодкі прывяло да таго, што

«З краіны слабай і непадрыхтаванай да абароны Савецкі саюз ператварыўся ў краіну магут-

ную ў сэнсе абароназдольнасьці, у краіну гатовую да ўсякіх выпадковасьцяй, у краіну здольную вырабляць у масавым маштабе ўсе сучасныя прылады абароны і забясьпечыць імі сваю армію ў выпадку нападу звонку» (Сталін).

### 3. СССР—краіна буйнага соцыялістычнага земляробства

На аснове вялізарных посьпехаў індустрыялізацыі краіны падведзена магутная тэхнічная база пад сельскую гаспадарку. Організавана 2 446 МТС. За пэрыод першай пяцігодкі здана сельскай гаспадарцы больш 120 тыс. трактароў.

За апошнія тры гады організавана звыш 200 тысяч колектыўных гаспадарак, з ахопам звыш 60 проц. сялянскіх гаспадарак. У асноўным закончана колектывізацыя ў асноўных збожжавых раёнах. Організавана 5 000 саўгасаў (збожжавых, жывёлагадоўчых і тэхнічных культур). Колгасы разам з саўгасамі ахапляюць каля 80 проц. усёй пасеўнай плошчы.

Уся пасеўная плошча за чатыры гады пашырана на 21 млн. гэктараў. Разьмеры таварнага збожжа, зданага дзяржаве, узрасьлі з 700 млн. пудоў у 1927-28 годзе да 1 400 млн. пудоў у 1931-32 годзе, з якога ня менш 75 проц. здадзена колгасамі і саўгасамі.

Па БССР колектывізацыяй ахоплена больш 40 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Ёсьць 57 МТС.

У выніку пасьпяховай колектывізацыі разгромлена кулацтва як кляса, забясьпечана перамога соцыялізму ў вёсцы. Пытаньне «хто—каго» канчаткова вырашана на карысьць соцыялізму як у горадзе, так і ў вёсцы. СССР канчаткова замацаваўся на соцыялістычным шляху.

## 4. Культурнае будаўніцтва

Пяцігодка значна расшырыла культурную базу і рост тэхнічных кадраў у СССР. Пісьменнасьць насельніцтва паднялася з 67 проц. у 1930 годзе да 90 проц. у 1932 годзе. Заканчваецца правядзеньне абавязковага пачатковага навучаньня. Значна вырасла колькасьць вучняў ва ўсіх навучальных установах.

Нашы перамогі зьяўляюцца вынікам правільнай генэральнай лініі партыі і яе барацьбы з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай, з «лявацкімі» перагібамі і з контррэволюцыйным трацкізмам, гнілым лібэралізмам, вынікам бязьлітаснага разгрому ўсякага роду антыпартыйных груповак, рашучага выкрыцьця агентаў клясавага ворага з партбілетам у кішэні з ліку буржуазных перараджэнцаў.

## 5. Рост соцспаборніцтва і ўдарніцтва

Нашы перамогі зьяўляюцца вынікам творчага энтузіязму рабочых і колгасьнікаў, якія выліўся ў шырокае разгортваньне соцспаборніцтва і ўдар-

ніцтва. Сярод ударнікаў-герояў пяцігодкі ня малае месца займаюць жанчыны. Даныя аб соцспаборніцтве і ўдарніцтве па індустрыяльных саюзах БССР гавораць аб тым, што процант работніц, ахопленых ударніцтвам, ня ніжэй а нават у некаторых галінах і вышэй агульнага проценту ўдарнікаў. Так на трэці квартал 1932 году процант усіх работніц сярод рабочых складаў 45,9 проц., а процант жанчынударніц сярод ударнікаў складаў 47,1 проц.

## 6. Перамогі пяцігодкі ў БССР—вынікі ленінскай нацыянальнай політыкі партыі

Дзякуючы ленінскай нацыянальнай політыцы комуністычнай партыі, БССР пры брацкай дапамозе з боку СССР дабілася вялізарных перамог у справе соцыялістычнага будаўніцтва.

**Прадукцыя прамысловасьці Беларусі павялічылася ў 1932 годзе** больш чым у чатыры разы ў параўнаньні з 1927-28 г.

Ленінская нацыянальная політыка партыі, політыка падцягваньня адсталых ускраін, знайшла сваё адлюстраваньне ў больш высокіх тэмпах разьвіцьця прамысловасьці ў БССР, чым па СССР у цэлым. Так у 1928-29 годзе прырост валавой продукцыі ў процантах да папярэдняга году складаў па СССР—126,6 проц., па БССР—151,4 проц.; у 1929-30 годзе—па СССР—127 проц., па БССР—

171,3 проц.; у 1931 годзе—па СССР—128 проц., па БССР—169,9 проц.

БССР з адсталай, няпісьменнай краіны, ператварылася ў краіну суцэльнай пісьменнасьці. У БССР шырока разгорнута сетка беларускіх, яўрэйскіх, польскіх школ і школ іншых нацыянальнасьцяй, дзеці якіх могуць свабодна навучацца на сваёй роднай мове.

Зараз у БССР 43 ВНУ і ВТНУ, 114 тэхнікумаў, 61 рабфак. Уведзена абавязковае ўсеагульнае навучаньне на базе сямігодкі.

## 7. Крызіс, беспрацоўе, голад і галеча ў капіталістычных краінах

Усе гэтыя вялізарнейшыя нябачаныя ў гісторыі перамогі пролетарыяту становяцца асабліва яскравымі, калі мы параўнаем іх з тым, што перажывае цяпер капіталістычны сьвет.

Апошняя пяцігодка, даўшая нам больш, чым падваеньне прамысловай продукцыі, закончылася ва ўсіх капіталістычных краінах значным зьніжэньнем аб'ёму прамысловай продукцыі, якое ў ПАЗШ дасягае ў 1932 годзе 56 проц. продукцыі 1928 году, у Англіі—80 проц., у Германіі—65, у Польшчы—54 проц.

У Польшчы мы наглядаем развал цэлых галін прамысловасьці і нябывалае абвастрэньне клясавай барацьбы.

Яшчэ мацней выяўляецца вастрыня крызісу ў Заходняй Беларусі, дзе рашаючае значэньне мела ўзмацненьне окупацыйнай політыкі нацыянальнага ўціску польскага фашысцкага ўраду і ператварэньне Заходняй Беларусі ў пляцдарм ліхаманкавай падрыхтоўкі ваеннага нападу на СССР.

Паводле даных буржуазнай прэсы, на працягу лістапада-сьнежня 1931 году і ў пачатку студзеня 1932 году было цалкам, або часткова ліквідавана ў Беластоку 25 тэкстыльных фабрык і звольнена каля 2 000 рабочых. Такое-ж становішча і ў дрэваапрацоўчай, шкляной, скураной і іншых галінах прамысловасьці. Шмат буйнейшых гут спынілася з прычыны адсутнасьці заказаў. Разарэньне саматужніцтва ідзе шпаркім тэмпам, гандаль перажывае застой.

Беларускія школы ў Заходняй Беларусі закрываюцца. Пасьля закрыцьця беларускай гімназіі ў Клецку закрыта беларуская сэмінарыя ў Вільні. Закрыты амаль усе беларускія пачатковыя школы, рыхтуецца закрыцьцё Віленскай і Новагрудзкай беларускіх гімназій. У Баранавічах, Косаве і Міры і ў іншых гарадох і вёсках Заходняй Беларусі разгромлены акруговыя ўправы і гурткі ТБШ (Таварыства белар. школы).

Ня ў лепшым становішчы знаходзіцца сельская гаспадарка капіталістычных краін. Скарочаны пасеўныя плошчы ў асноўных збожжавытвараючых краінах на 8—10 проц. Значна скарачаецца выраб і збыт сельскагаспадарчых машын: у ПАЗШ—на

83 проц. у параўнаньні з 1929 годам, у Германіі на 72 проц. у параўнаньні з 1928—29 годам, у Польшчы амаль спынен выраб сельскагаспадарчых машын. Кошт валавой продукцыі сельскай гаспадаркі ў ПАЗШ зьнізіўся ў 1932 годзе больш чым на 50 проц. у параўнаньні з 1929 годам: па збожжы больш чым на 68 проц., па бавоўне больш чым на 70 проц.

Хуткім тэмпам ідзе разарэньне сялянскіх і фэрмэрскіх гаспадарак.

### 8. Няўхільнае палепшаньне матэрыяльнага становішча рабочых і сялян Савецкага саюзу

Нябывалы ўздым прамысловасьці і сельскай гаспадаркі ў СССР значна палепшыў матэрыяльнае становішча рабочых і сялян.

У СССР канчаткова зьнішчана беспрацоўе і ліквідавана няўпэўненасьць у заўтрашнім дні сярод рабочых і працоўных. Колькасьць рабочых і служачых буйнай прамысловасьці вырасла ў два разы ў параўнаньні з 1928 годам. Па БССР колькасьць рабочых і служачых за гэты-ж час вырасла з 240 000 да 1/2 млн. чалавек (больш чым у два разы).

Вырасла сярэдня-гадавая зарплата рабочых і служачых буйнай прамысловасьці на 67 проц., павялічан фонд соцыяльнага страхаваньня на 292 проц. у параўнаньні з 1928 годам, павялічылася колькасьць працуючых у рабочай сям'і, што павялічыла яе даход. Вырасла грамадзкае харча-

ваньне з ахопам звыш 70 проц. рабочых рашаючых галін прамысловасьці.

У выніку пяцігодкі, значна палепшылася і матэрыяльнае становішча сялянства.

> «Яшчэ зусім нядаўна каля паўтара мільёну, а то і цэлых два мільёны беднякоў накіроўвалася штогод на заработкі на Поўдзень, на Паўночны Каўказ і Украіну ў найміты да кулакоў, а яшчэ раней—да кулакоў і памешчыкаў. Яшчэ больш прыходзіла іх штогод да заводзкіх брам, запаўняючы рады беспрацоўных. І ня толькі беднякі знаходзіліся ў такім незавідным становішчы. Добрая палова серадпякоў знаходзілася ў такой-жа галечы і няхватках, як і беднякі. Пра ўсё гэта ўжо пасьпелі забыць сяляне» (Сталін).

## СТАНОВІШЧА ПРАЦОЎНЫХ ЖАНЧЫН У СССР

**Бурныя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва садзейнічалі ўцягненьню вялікай масы працоўных жанчын у вытворчую і грамадзкую працу, актыўнаму ўдзелу іх у пабудаваньні соцыялізму.**

Яшчэ ў 1868 г. Карл Маркс пісаў: «Грамадзкі прогрэс можа вымярацца толькі па грамадзкім становішчы жанчыны».

Тав. Ленін у сваім дакладзе аб міжнародным дні работніц у 1921 годзе сказаў:

> «Галоўнае, асноўнае ў бальшавізьме і ў расійскай Кастрычніцкай рэволюцыі ёсьць уця-

гненьне ў політыку іменна тых, хто быў больш за ўсё прыгнечаны пры капіталізьме...

А ўцягнуць у політыку масы нельга без таго, каб не ўцягнуць у політыку жанчын. Бо жаночая палова роду чалавечага пры капіталізьме прыгнечана ўдвая» (Ленін).

«Для поўнага вызваленьня жанчыны і для сапраўднай роўнасьці яе з мужчынай, трэба, каб была грамадзкая гаспадарка, і каб быў удзел жанчыны ў агульнай вытворчай працы» (Ленін).

## 1. Жанчыны ў прамысловасьці

Толькі за 1931-32 год уцягнута **два з палавінай мільёны жанчын ва ўсе галіны народнай гаспадаркі.** Агульны лік жанчын у прамысловасьці вырас з 1/1-1929 году да канца 1932 году з 2,7 млн. чалавек, да 5,8 млн. чалавек, што павялічыла процант працуючых жанчын з 28 да 31.

Колькасьць жанчын ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі складае ў 1932 годзе 31,5 проц.; у прамысловасьці—32,3 проц.; па грамадзкім харчаваньні і ахове здароўя—60—70 проц.

Па БССР мы маем наступныя дасягненьні ў справе ўцягненьня жанчын у прамысловасьць: на 1 студзеня 1931 году ва ўсёй прамысловасьці БССР працавала 26 071 работніца (бяз транспорту), што складае 33,8 проц. ад агульнага ліку рабочых; на 1 ліпеня 1932 году—41 772 чал. (бяз

транспорту), што складае 42,2 проц. ад агульнай колькасьці рабочых.

Жанчыны працуюць цяпер і ў тых галінах прамысловасьці, дзе раней яны мала, або зусім не працавалі (мэталюргічная, горная прамысловасьць, будаўніцтва, транспорт).

Колькасьць жанчын, якія працуюць на транспорце, вырасла з 101 тысячы ў 1926 годзе да 280 тысяч у 1932 годзе; у мэталюргічнай прамысловасьці з 18,4 тысячы ў 1926 годзе — да 122,4 тыс. у 1931 годзе.

Па БССР мы наглядаем такі-ж процэс уцягненьня жанчын ва ўсе галіны вытворчасьці. На 1/I-31 году на электрастанцыях было работніц 1,7 проц. ад агульнага ліку рабочых, на 1/I-32 году работніцы складаюць 6,2 проц. (рост з 19 да 97 чалавек); па мэталюргічнай прамысловасьці замест 669 чалавек—1 260; па вырабу будматэрыялаў замест 19,4 проц.—28,8 проц.; на чыгуначным транспорце БССР працуе 4 060 жанчын, што складае 11 проц. ад агульнага ліку рабочых.

Жанчына ня толькі ўцягваецца ва ўсе галіны прамысловасьці, але пачынае авалодваць і найбольш кваліфікаванымі процэсамі сваёй вытворчасьці. У мэталюргічнай прамысловасьці кваліфікаваных жанчын у 1926 годзе было 4,8 тыс., у 1931 годзе—68,7 тыс. Вырасла колькасьць жанчын-сьлесараў, токараў, фрэзэроўшчыкаў. Ёсьць у нас жанчыны-машыністы, лётчыкі, трактарысткі, інжынэры, тэхнікі, майстры.

Шматлікія факты гавораць аб тым, што ў гэтых талінах прамысловасьці жанчыны могуць спраўляцца ня горш, чым мужчыны.

Напрыклад, у БССР: **Яшкіна** — трактарыстка камбядрабільнай установкі ўзнагароджана ордэнам працоўнага чырвонага сьцягу за героічную работу па будаваньні шосэйнай дарогі Менск—Ворша. Работніца будаўніцтва Барысаўскага хлебазаводу **Ганна Ашчарэвіч** паказала прыклад адвагі і героізму пры пабудаваньні фабрычнай трубы ў 31 мэтр. Ніхто не згаджаўся станавіцца на гэтую работу. Ганна першая ўзялася, даючы самыя высокія нормы выкладкі цэглы. Праз 5 дзён яна клала ўжо апошнюю цагліну, чым садзейнічала сканчэньню пабудаваньня хлебазаводу раней тэрміну. Ударніцу Ганну Ашчарэвіч прэміявалі ганаровай граматай і дэфіцытнымі таварамі.

Комсамольская гаспадарча-разьліковая брыгада **Журавінкінай** з матальнага цэху Віцебскай панчошна-трыкатажнай фабрыкі «КІМ» паказвае лепшыя прыклады барацьбы за прамфінплян. Прамфінплян брыгада перавыконвае. Брыгада дабілася зьніжэньня адыходу нітак да $1^1/_2$ проц., замест 3 проц., якія дапускаюцца па пляну.

Работніца **Тайц** працуе ў прасовачным аддзяленьні Менскага дрожджава-патачнага заводу «Чырвоная зорка», дзе раней працавалі адны мужчыны. Дзякуючы прапановам і намаганьням Тайц, якая працуе ў плянавай групе, у цэху ўста-

навілі некалькі дадатковых мотораў, афарбавалі чаны, ушчыльнілі рабочы час.

Мы маем ня толькі работніц-ударніц сваёй вытворчасьці, але і работніц актыўных барацьбітоў на фронце загатовак.

Работніцы і жонкі рабочых Якаўлевіцкай суконнай фабрыкі, абгаварыўшы пытаньне аб прарыве ў загатоўках і кулацкім саботажы, разьбіліся на брыгады і пайшлі па вёсках, якія найбольш адставалі ў выкананьні загатовак: Люціна, Казловічы, Якаўлевічы, Лешч і інш. Там зьбіралі сходы жанчын, праводзілі гутаркі. У выніку—аднаасобнікі вёскі Люцына адгрузілі 4 тоны збожжа. Брыгада знайшла шмат захаванага кулакамі збожжа ў вёсцы Магараўка.

Жанчыны дабіліся таго, што выкананьне збожжазагатовак па сельсавету пайшло значна хутчэй.

Прыведзеныя факты і лічбы красамоўна гавораць аб тым, што працоўная жанчына цьвёрда і ўпэўнена займае месца поплеч з мужчынам на розных вучастках соцыялістычнага будаўніцтва.

## 2. Жанчыны ў сельскай гаспадарцы

Соцыялістычнае перабудаваньне сельскай гаспадаркі карэнным чынам зьмяніла жыцьцё і быт працоўных сялянак. Замест раней цёмнай, забітай батрачкі і бядначкі, прыгнечаных кулацкай кабалой, галечай і цяжкай працай, усё больш пашыраецца ў нас тып колгасьніцы-ўдарніцы—актыў

нага барацьбіта за бальшавіцкі колгас, за выкананьне плянаў дзяржаўных загатовак.

Вось яскравыя прыклады:

**Галена Кароль** з колгасу імя Карла Маркса, Слуцкага раёну—застрэльшчык соцспаборніцтва па апрацоўцы і здачы ільну дзяржаве. Пры яе актыўнай помачы колгас выканаў ільназагатоўкі на 102 проц.

**Тэадора Вішнякова** з колгасу «Адказ інтэрвэнтам», Лёзьненскага раёну—брыгадзір, 4 разы прэміявана за добры дагляд жывёлы пры СТКФ.

**Данілава Барбара** з колгасу «Ударнік», Мазырскага раёну—намесьнік старшыні колгасу і загадчык сьвінагадоўчай фэрмы. Выпрацавала 262 працадні; 3 разы прэміявана. Арганізавала гурток жанчын-колгасьніц па вывучэньні агро-і зоотэхнікі, па ліквідацыі малапісьменнасьці. Член КП(б)Б з 1929 году.

**Жадобіна Наста**—старшыня колгасу «Дванаццацігодзьдзе», Пацэйкаўскага сельсавету, Капыльскага раёну. За добрую і сваячасова праведзеную ўборачную кампанію Жадобіну прэміявалі 50 руб.

Колгас «Дванаццацігодзьдзе», ачысьціўшыся ад кулакоў і падкулачнікаў, выканаў усе абавязкі перад дзяржавай поўнасьцю і датэрмінова.

**Сьвірыдзэнка Праскоўя Яўхімава** — брыгадзір СТКФ колгасу «Іскра» Чэрыкаўскага раёну, выпрацавала за 1932 год 532 працадні; вядзе рашучую барацьбу за выяўленьне кулацкіх і контррэволюцыйных элемэнтаў.

**Касьцялецкая Агата**—парнікавод, ударніца, выпрацавала 315 працадзён, прымала актыўны ўдзел у загатоўках.

**Сабаленка Галена** з інтэрнацыянальнага колгасу імя Лекерта, Шацілаўскага сельсавету, Полацкага раёну—выпрацавала 310 працадзён. Разам з **Тумашэўскай Міляй Сабаленка** актыўна памагала сельсавету па засыпцы насенных і страхавых фондаў, а таксама ў правядзеньні загатовак. Сельсавет за добрую работу прэміяваў іх брыгаду.

**Хацкевіч Тацяна** з колгасу «Новы шлях», Дрысенскага раёну—ударніца, працавала на сельскагаспадарчых машынах (жняярка, касілка), выпрацавала 318 працадзён. Праводзіла работу па зьнішчэньні абязьлічкі, ураўнілаўкі. Карыстаецца ў колгасе вялікім аўторытэтам.

**Каця Шурхаева** з Цішаўскага сельсавету, Магілеўскага раёну—ударніца па здачы збожжа. Організатар буксірнай брыгады па падцягваньні ў загатоўках адсталых вёсак. Брыгада Каці Шурхаевай выкрыла ня мала збожжа, захаванага кулацтвам.

**Скавародкіна Лукер'я** з Лепельшчыны, **Дуня Аляксяенка** з Крычаўшчыны — актыўныя памочнікі ў справе выкрыцьця кулацкага саботажу загатовак.

### 3. Бытавое абслугоўваньне працоўных

Але мала ўцягнуць вялікую армію работніц і колгасьніц у актыўную вытворчую працу, мала мець самае ідэальнае ў сьвеце законадаўства, якое

ёьніштожыла няроўнасьць жанчыны з мужчынам, якое прадугледжвае ахову маці і дзіцяці.

Ленін гаварыў:

> «Сапраўднае вызваленьне жанчыны, сапраўдны комунізм пачынаецца толькі там і тады, дзе і калі пачынаецца масавая барацьба, кіруемая пролетарыятам, які ўладае дзяржаўнай уладай, супроць гэтай дробнай хатняй гаспадаркі, або вярней—масавая перабудова яе ў буйную соцыялістычную гаспадарку».

Вялікіх дасягненьняў дабілася партыя ў справе ажыцьцяўленьня гэтага наказу правадыра.

Прапускная здольнасьць ясьляй па СССР з 1929 году па 1932 год павялічылася ў 6 разоў (з 55 тыс. дзяцей да 300 тыс.). Дзіцячыя сады, ачагі, пляцоўкі ў гарадох ахоплівалі 97 тыс. дзяцей у 1927—28 годзе, а ў 1932 годзе—819 тыс. Па грамадзкім харчаваньні мы маем рост абслугоўваемага контынгенту з 750 тыс. у 1929 годзе да 15 млн.

Па БССР колькасьць ложкаў у ясьлях гарадоў павялічылася з 2 500 у 1930 годзе да 6 700 у 1932 годзе. Па пляну 1933 году мяркуецца давесьці колькасьць ложкаў да 12 000. Ёсьць у нас цэлы рад ясьляй коопэрацыйных, жактаўскіх, грамадзкіх організацый. Па соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі было ў 1930 годзе 1 тысяча ясьляй на 25 000 дзяцей, цяпер—3 500 ясьляй на 85 000 дзяцей; дашкольных установ было ў

1925 годзе ўсяго на 121 дзіця, цяпер 4 000 на 150 000 дзяцей.

Па гарадох у 1925 годзе было 52 дашкольных установы з ахопам 2 221 дзяцей, у 1931 годзе—3 356 установаў, з ахопам 111 616 дзяцей. Цяпер у нашых дашкольных установах выхоўваецца 148 000 дзяцей.

Паводле пляну 1933 году мы павінны ахапіць дашкольным выхаваньнем 100 проц. дзяцей рабочых і работніц.

Ёсьць таксама вялікія дасягненьні і ў справе прыстасаваньня ўмоў работы дзіцячых установаў да ўмоў вытворчасьці. Цэлы рад дзіцячых установаў ужо перайшоў на кругласутачную работу, што канчаткова разьвязвае рукі работніцы для вытворчасьці, вучобы, грамадзкай работы.

Кругласутачныя ясьлі ёсьць у нас на фабрыцы «Сьцяг індустрыялізацыі»—Віцебск, на фабрыцы «Комінтэрн»—Гомель і інш. 36 ясьляй працуюць у дзьве-тры зьмены, астатнія ў большасьці працуюць 10—12 гадзін.

У дашкольных установах дзеці таксама знаходзяцца ад 10 да 12 гадзін. Ёсьць 50 дашкольных установаў, якія працуюць круглыя суткі, значная частка дашкольных установаў працуе бесьперапынна. Усе ясьлі і дашкольныя ўстановы працуюць круглы год. Улетку гэтага году значная частка іх выяжджала ў летнія колёніі.

Каштарысныя выдаткі на ўтрыманьне дашкольных установаў павялічыліся з 1 850 000 у 1931 годзе да 4 446 000 у 1932 годзе.

Расьце таксама сетка дзіцячых і жаночых консультацый.

У 1923 годзе было толькі 5 консультацый, у 1928 годзе—65, у 1931 годзе—126.

Жаночых консультацый у вёсцы ў 1928 годзе было 39, у 1930—73, у 1931—126. Рад жаночых консультацый маюць свае пункты непасрэдна на прадпрыемствах (на фабрыках «Кастрычнік», абутковай і інш.).

Значныя дасягненьні мы маем і ў адносінах радзільнай дапамогі. Па гарадох і прамысловых цэнтрах мы маем 100 проц. ахоп радзільнай дапамогай, па сельскіх мясцовасьцях таксама ў гэтай справе ёсьць вялікі зрух.

Таксама вырасла ў нас сетка дзіцячых харчовых станцый, кухань прыкорму, з якіх маленькім дзецям выдаюцца розныя стравы (малочныя супы, кісялі, малако і т. д.).

Клопаты савецкай улады аб ахове мацярынства і младзенства прывялі да значнага паніжэньня дзіцячай сьмяротнасьці.

Дзіцячая сьмяротнасьць у Беларусі ў 1910 годзе складала 18,5 проц., у 1927 годзе—9,5 проц. За апошнія гады дзіцячая сьмяротнасьць яшчэ больш зьнізілася.

## 4. Вылучэньне жанчын

Савецкі саюз зьяўляецца адзінай рэспублікай, дзе жанчына прыцягваецца да ўлады, да кіраваньня дзяржавай. Ёсьць у нас жанчыны наркомы, намесьнікі наркомаў, члены колегій наркоматаў, таксама і на іншых вельмі адказных пасадах. У апошнім складзе ЦВК СССР ёсьць 96 жанчын членаў і 70 кандыдатаў.

У БССР таксама ёсьць 1 жанчына наркомсабезу, т. Марусевіч, 1 намесьнік наркому, 2 старшыні РВК, 2 старшыні ЦПСаюзаў, 26 жанчын членаў ЦВК СССР. Ёсьць у нас 30 старшынь сельскіх саветаў, 18 старшынь колгасаў.

Вялікі актыў жанчын маем мы таксама і ў дэлегацкіх сходах, якія зьяўляюцца актыўнымі памочнікамі партыі ў горадзе і ў вёсцы ў справе выхаваньня новых слаёў работніц і колгасьніц.

Колькасьць дэлегатак па СССР дасягае 2 500 тыс. чал., па БССР па няпоўных вестках—30 918.

Аб росьце палітычнай актыўнасьці жанчын гаворыць павялічэньне як колькасьці, так і ўдзельнай вагі жанчын у авангардзе пролетарыяту, у радох комуністычнай партыі.

## 5. Жанчыны ў КП(б)Б

Па БССР мы маем павялічэньне проценту жанчын у КП(б)Б з 11,7 проц. ад агульнага складу членаў партыі на 1/І-29 году, да 13,5 проц. на 1/І-33 году; рост з 3 928 чал. да 8 808, прычым колькасьць

работніц павялічылася ў 3 разы і складае 6 351 чал., колькасьць колгасьніц—у 2 разы і складае 1 633 чал.

## СТАНОВІШЧА ПРАЦОЎНЫХ ЖАНЧЫН У КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ КРАІНАХ

Працоўныя жанчыны Савецкага саюзу ўжо пасьпелі забыць той час, калі прыходзілася падоўгу шукаць і не заўсёды знаходзіць работу, калі прыходзілася падоўгу быць беспрацоўнымі. Дзякуючы шырока разгорнутаму соцыялістычнаму будаўніцтву, якое патрабуе шмат рабочых рук, атрымалі нашы рабочыя ўпэўненасьць у заўтрашнім дні.

Зусім іншае становішча ў капіталістычных краінах.

Крызіс, які ўсё больш паглыбляецца, прыводзіць да закрыцьця масы прадпрыемстваў, да скарачэньня вытворчасьці, да выкіданьня на вуліцу аграмаднай арміі беспрацоўных. Так колькасьць беспрацоўных ва ўсіх капіталістычных краінах хістаецца цяпер паміж 35—40 млн. чалавек. У ПАЗЩ 11 млн. беспрацоўных, у Англіі—каля 3 млн., Германіі—5 з паловай мільёнаў. Апрача беспрацоўных ёсьць у капіталістычных краінах вялікая армія паўбеспрацоўных рабочых і работніц, якія працуюць няпоўны рабочы дзень і атрымліваюць скарочаную зарплату. Сярод беспрацоўных аграмадная армія работніц. У Германіі звыш паўтара мільёну беспрацоўных жанчын. У Польшчы звыш мільёну беспра-

цоўных, у тым ліку каля 200 тыс. жанчын; у саматужнай прамысловасьці Польшчы, у якой жаночая рабочая сіла складае 90 проц., зараз 90 проц. беспрацоўных, якія не атрымліваюць ніякай дапамогі па беспрацоўі.

У Англіі і Францыі каля 25 проц. беспрацоўных складаюць жанчыны. У Заходняй Беларусі па афіцыяльнай урадавай статыстыцы налічваецца 350 тысяч беспрацоўных.

Горш за ўсіх адчувае ўвесь цяжар беспрацоўя працоўная жанчына, якая павінна пракарміць дзяцей.

Разам з ростам крызісу ідзе наступленьне капіталістаў на рабочую клясу. Усюды скарачаецца або зусім адмяняецца соцыяльнае страхаваньне. Страхаваньне ад беспрацоўя, там дзе яно яшчэ ёсьць, для жанчыны значна ніжэй чым для мужчыны.

Ні ў аднэй капіталістычнай краіне жанчына не атрымлівае роўнай платы з мужчынам за роўную працу.

У Англіі зарплата работніцы ў сярэднім складае 52 проц. зарплаты рабочага, у Францыі—70—75 проц. зарплаты рабочага, у Польшчы—55—60 проц.

На табачных фабрыках Заходняй Беларусі сярэдні заработак кваліфікаваных рабочых складае 1,80 злотых, некваліфікаваных—1,00, жанчын—1,03.

Служачыя жанчыны таксама атрымліваюць менш, чым мужчыны на тэй-жа рабоце.

Напрыклад, у Польшчы бухгальтар-мужчына атрымлівае 550 злотых, жанчына—374; карэспондэнт-мужчына—532, жанчына—488; касір-мужчына—515, жанчына—292.

У Заходняй Беларусі гэтыя стаўкі значна ніжэйшыя.

У Кітаі, Японіі, Індыі зарплата жанчын складае ад ⅓ да ½ зарплаты мужчын. Ня гледзячы на ўвядзеньне 8-гадзіннага рабочага дню ў цэлым радзе капіталістычных краін, рабочы дзень больш 8 гадзін. Так у Германіі сярэдняя працягласьць рабочага тыдню даходзіць да 64 гадзіны. У Італіі, Румыніі, Польшчы, Югаславіі рабочы дзень работніцы—10—12 гадзін. У ПАЗШ работніцы тэкстыльнай прамысловасьці ў некаторых штатах працуюць 11 гадзін. У Кітаі рабочы дзень даходзіць да 12—16 гадзін. У Японіі работніцы працуюць 11—13 гадзін, а на радзе дробных прадпрыемстваў—15—16 гадзін у дзень. У Індыі на падземных работах працуюць 11—13 гадзін без перапынку.

Калі да гэтага дадаць адсутнасьць або невыкананьне законаў аб ахове мацярынства і маладзенства, то стане зусім зразумела, чаму здараецца такая вялікая колькасьць няшчасных выпадкаў з работніцамі ў капіталістычных краінах, чаму так хутка зьнясіляецца іх організм, чаму яны так хутка захворваюць.

Работніца Відзеўскай мануфактуры ў Польшчы ў сваёй кніжцы «На Лодзінскай фабрыцы», піша

што «ва ўсёй Лодзі, а таксама і ў нас на Відзеве ня гледзячы на тое, што ў Польшчы ўстаноўлен 8-гадзінны рабочы дзень, працуюць у часе сэзону 10—12 гадзін, нават 16 гадзін у суткі без перапынку. Звыштэрміновых мы, зразумела, не атрымліваем».

«Шмат у нас працуе хворых і цяжарных жанчын. Цяжарным паводле закону належыць платны водпуск—6 тыдняў да і 6 тыдняў пасьля радоў. Але калі работніца патрабуе сабе водпуск, то яе зволяць, або ня прымуць назад на прадпрыемства пасьля радоў, таму цяжарная работніца не карыстаецца водпускам, каб не застацца на вуліцы з дзіцем. Каб ня быць зволенай, работніца скрывае цяжарнасьць. Таму і прыходзіцца па 125 разоў у дзень выклікаць хуткую дапамогу на розных Лодзінскіх фабрыках».

Голад пануе сярод беспрацоўных. Нястачы штурхаюць многіх маладых жанчын на шлях прастытуцыі. Нават буржуазныя газэты вымушаны прызнаць колькасны рост прастытуцыі, якая рэкруціруецца з беспрацоўных. Самагубства—звычайнае зьявішча.

Вось жудасны малюнак аб самагубстве двух зволеных з работы лодзінскіх ткачых, апісаны аднэй з буржуазных газэт. Працуючы на працягу поўных шасьці дзён у тыдзень, маладыя работніцы галадалі. Яны эксплёатаваліся падвойна, як усе рабочыя і як жанчыны, якім плацяць менш чым мужчынам. Калі іх зволілі, пачаўся для іх сапраўдны го-

лад, іх мозаг сьвідравала адна думка,—хоць-бы раз і добра пад'есьці. Яны купілі на апошнія грошы продуктаў і шклянку атруты. Паехалі за горад. Там наеліся і напіліся атруты. Аднак на зьберажэньні лодзінскіх тэкстыльшчыц ня купіш хуткадзейнічаючай атруты. Атрута дзейнічала вельмі марудна. Работніцы ледзь падпаўзьлі да чыгунэчнага палатна і кінуліся пад таварны цягнік. Адна тут-жа загінула, а другую яшчэ жывой падабралі і прывезьлі ў бальніцу. Перад сьмерцю яна яшчэ пасьпела расказаць аб тым, што здарылася.

«Газэта «Варшаўска» піша: «У шпіталі памёрла 28-гадовая Мар'я Тумінская—вэтэрынарны доктар. У мінуту роспачы, выкліканай беспрацоўем, яна стрэліла сабе рэвольвэрам у сэрца. 7 лютага ў Варшаве пакончыла самагубствам швачка Зося Багуцкая (18 год) і Баравяцуўна—служачая».

«Работнік» паведамляе, што 8 лютага ў Варшаве на рагу вуліцы Лешно і Броннай страціла прытомнасьць Сабіна Бэкерава. Доктар констатаваў поўнае зьнясіленьне організму ад голаду».

Інстытут па вывучэньні грамадзкай гаспадаркі ў Варшаве, выпусьціў асобнае выданьне—57 запісак беспрацоўных. Вось адна з гэтых запісак Варшаўскага будаўнічага рабочага, які 28 месяцаў быў беспрацоўным. Да апошняга часу сям'я беспрацоўнага «жыла» на зусім мізэрныя грашы, якія выпадкова зарабляла жонка. У іх чацьвёра дзяцей. Беспрацоўны піша: «Цяжка пражыць,

*маючы на руках чатырох дзяцей.* Што рабіць? Жонка аслабла і канчаткова выбілася з сіл. Яна выглядае нібы шкілет. У яе кроў ідзе горлам. І гэта суправаджаецца надзвычайным болем галавы, а галава баліць ад думкі, што будзе далей і як мы будзем жыць».

## 1. Становішча дзяцей працоўных у капіталістычных краінах

«Дзіця беспрацоўных бацькоў,—піша адзін з беспрацоўных,—гэта худое, бледнае, зьнясіленае стварэньне. У галаўной каробцы такога дзіцяці скрываецца шмат турботных і балючых перажываньняў, шмат роспачы, болю і пакуты. Спачатку дзеці ад голаду плакалі, бо хацелі есьці. Маці біла іх... Але, калі дзеці пачыналі плакаць мацней, яна сама плакала. Далей дзеці ўжо перасталі плакаць. Яны зрабіліся маркотнымі і маўклівымі. Іх твары нібы зроблены з мрамару, вочы шырока раскрыты, у іх захаван найвялікшы жах... Такія нашы дзеці—дзеці беспрацоўных бацькоў».

Вось яшчэ даныя буржуазнага друку: «Пражываючы ў Вільні на вуліцы 3 мая, бядняк-кравец М., прышоўшы да хаты, убачыў вісячым на вяроўцы свайго трынаццацігадовага сына. Бацька зьняў самагубцу з пятлі і адратаваў яго. У кішэні ён знайшоў запіску: «Я прыйшоў да вываду, што дзецям беднякоў ня варта жыць і таму рашыў добравольна пазбавіць сябе жыцьця».

Шмат ёсьць цяпер ў капіталістычных краінах бяспрытульных, бяздомных дзяцей. У аднэй толькі Амэрыцы бродзіць 1 млн. зьдзічэлых дзяцей.

## 2. Рост удзелу працоўных жанчын капіталістычных краін у рэволюцыйным руху

Галеча і голад штурхаюць беспрацоўных жанчын і работніц на барацьбу, на ўдзел у масавых выступленьнях і дэмонстрацыях, прыводзяць іх да сутычак з поліцыяй.

Усё большая колькасьць работніц, зразумеўшы здрадніцкую ролю соцыял-фашыстаў, пераходзіць да актыўнай барацьбы пад сьцягам сваіх комуністычных партый за зьвяржэньне капіталістычнага ладу, за дыктатуру пролетарыяту.

За апошнія гады роля работніцы ў клясавых баёх надзвычай узрасла. Работніцы ўдзельнічаюць ў політычных кампаніях, у рабочых дэмонстрацыях, забастоўках. Яны на перадавых пастох. Мы бачым работніц у забастовачных комітэтах, у пікетах, у барацьбе з штрэйкбрэхерамі і поліцыяй, у апіткамандах сярод салдат. Жанчыны ідуць на чале дэмонстрацый, прымаючы ўдзел у барыкадных баёх.

У Чэха-Славакіі ў часе дэмонстрацыі жанчыны акружылі прамоўцу—сакратара акруговага комітэту комуністычнай партыі, не падпускаючы поліцыю, якая хацела яго арыштаваць. Сустрэўшы супраціўленьне работніц, жандары ўжылі штыхі.

12 работніц атрымалі раны, ня гледзячы на гэта яны змаглі абараніць прамоўцу і ня далі яго арыштаваць. Такія-ж выпадкі мелі месца ў Францыі. Германіі, Кітаі, Індыі.

Удзел работніц у экономічных баёх і забастоўках часта вышэй, чым удзел мужчын. Па лічбах 1928 году ў Германіі ў забастовачнай барацьбе прымала ўдзел 50 проц. жанчын, тады як у прамысловасьці іх было ўсяго 36 проц. Вялікую актыўнасьць жанчыны паказалі ў забастоўках бэрлінскіх мэталістаў у 1930 годзе, а таксама ў барацьбе гарнякоў Руру і Верхняй Сылезіі (студзень 1931 год). Жанчыны-работніцы прымалі ўдзел у пікетах і ў забастовачных комітэтах. Жонкі рабочых затрымлівалі штрэйкбрэхераў, зварочвалі іх дадому і не дапускалі да работы.

Такі-ж актыўны удзел у забастоўках і палітычных дэмонстрацыях прымалі і польскія работніцы.

У Сколеме—у Заходняй Украіне, у часе забастоўкі на цагельным заводзе жанчыны ляглі на рэйкі і затрымалі цягнік з штрэкбрэхерамі і паліцыяй. У часе героічнай забастоўкі гарнякоў у Явожне ў маі 1931 году жонкі рабочых памагалі мужам зьнімаць з работы штрэйкбрэхераў. У часе дэмонстрацыі паліцыя страляла ў рабочых, у ліку сямі забітых было дзьве жанчыны.

Выключную стойкасьць жанчыны паказалі ў часе ліпеньскай забастоўкі рабочых панчошнай прамысловасьці ў Лодзі, накіраванай супроць

імкненьня прадпрыемцаў зьнізіць зарплату да 40 проц. У гэтай забастоўцы прымала ўдзел 16 тысяч рабочых і работніц. У кастрычніцкай забастоўцы тэкстыльшчыкаў у Лодзі, ахапіўшай 20 тысяч чалавек, жанчыны прымалі ўдзел у забастовачных комітэтах, абраных на прадпрыемствах, і ў схватках паміж бастуючымі і пэпэсаўскімі дружыньнікамі.

Беспрацоўныя жанчыны Польшчы прымаюць актыўны ўдзел у дэмонстрацыях. Напрыклад у Менску-Мазаве (Варшава-Прыгарадная) у дэмонстрацыі беспрацоўных прымала ўдзел некалькі сот жанчын з дзяцьмі на руках. Паліцыя арыштавала рад дэмонстрантаў, у тым ліку адну жанчыну. Калі яе ў вучастку запыталіся, хто з бальшавікоў заклікаў яе ісьці на дэмонстрацыю, яна адказала:

«Дазвольце мне пайсьці да хаты, і я вам пакажу гэтых бальшавікоў».

Комісар паліцыі ўзрадаваўся, што яна выдасьць кіруючых членаў партыйнай організацыі. Арыштаваная была адпушчана ў суправаджэньні паліцэйскага. Хутка яна зьвярнулася і прывяла з сабой чатырох маленькіх дзяцей, гаворачы: «Вось гэта тыя галадаючыя бальшавікі, якія казалі мне пайсьці на дэмонстрацыю».

У Барыслаўлі ў дэмонстрацыі беспрацоўных прымала ўдзел 300 жанчын з дзяцьмі на руках. Калі дэмонстранты прышлі да гарадзкой управы, жанчыны паклалі там сваіх дзяцей, заявіўшы:

«Мы больш ня можам глядзець, як нашы дзеці

паміраюць з голаду. Вы павінны іх карміць і выхоўваць».

Поліцыя арыштавала некалькі жанчын і прымусіла астатніх узяць дзяцей назад.

У Кітаі ў I квартале 1931 году было праведзена 63 забастоўкі. У гэтых забастоўках прымала ўдзел 80—90 проц. работніц.

У часе рабочых дэмонстрацый супроць драпежніцкага, насільніцкага ўрываньня японскіх імпэрыялістаў у Манчжурыю жанчыны-работніцы прымалі актыўны ўдзел у выступленьнях рабочых, ня гледзячы на тэрор гоміндanaўскага ўраду.

Комуністычная партыя Польшчы расьце, ня гледзячы на люты тэрор. У 1930 годзе жанчыны ў польскай компартыі складалі 7 проц., па зьвестках, якія ёсьць на сёньня, гэты процант павысіўся. У Фінляндыі компартыя мае ў сваім складзе 14 проц. жанчын. У Чэха-Славакіі—12—13 проц. У компартыі Швэцыі было 13 проц. жанчын, але за апошні час гэты процант падняўся да 15. У компартыі Швэцыі 1 380 жанчын, у Норвэгіі—10 проц., у Баўгарыі—2 проц. У Кітаі сярод 200 тыс. членаў партыі 5 проц. складаюць жанчыны.

## НАШЫ ЗАДАЧЫ

Міжнародны комуністычны жаночы дзень пройдзе ў гэтым годзе ў капіталістычных краінах як дзень баявой праверкі гатоўнасьці масы працоўных жанчын змагацца пад кіраўніцтвам компартыі

за дыктатуру пролетарыяту, за савецкую ўладу, за абарону СССР.

Працоўныя жанчыны Савецкага саюзу ў дзень 8 сакавіка яшчэ больш згуртуюцца вакол ленінскай партыі і яе ЦК на чале з т. Сталіным на выкананьне пастаўленых апошнім пленумам задач у другой пяцігодцы—пяцігодцы пабудаваньня бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

Асноўнай нашай задачай у вобласьці прамысловасьці зьяўляецца, побач з разгортваньнем новага будаўніцтва, барацьба за асваеньне новых заводаў і новай тэхнікі, за павышэньне кваліфікацыі, за палепшаньне якасных паказальнікаў працы.

> «У пэрыод першай пяцігодкі мы здолелі організаваць энтузіязм, патос **новага будаўніцтва** і дабіліся рашаючых посьпехаў. Гэта вельмі добра. Але цяпер гэтага недастаткова. Цяпер гэтую справу мы павінны дапоўніць энтузіязмам, патосам **асваеньня** новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзным узьняцьцем продукцыйнасьці працы, сур'ёзным скарачэньнем сабекошту. **У гэтым цяпер галоўнае»** (Сталін).

Продукцыйнасьць павінна быць узьнята ў 1933 годзе на 14 проц. у параўнаньні з 1932 годам, сабекошт павінен быць зьніжан у прамысловасьці на 3,9 проц., па будаўніцтве—на 15 проц. Да міжнароднага комуністычнага жаночага дня неабходна дабіцца ахопу соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам

усіх новых слаёў работніц, лабіцца пералому ў справе перакваліфікацыі работніц, у справе ахопу іх тэхнічнай вучобай, рацыяналізатарскім рухам, у справе перасоўваньня іх на вышэйшыя кваліфікацыі.

Цяпер удзельная вага кваліфікаваных жанчын сярод усіх кваліфікаваных рабочых яшчэ зусім нізкая. Сярод мэталістаў СССР—яна складае 7 проц., сярод чыгуначнікаў—каля 5, сярод дрэваапрацоўшчыкаў—8,9 проц. Большасьць жанчын працуе яшчэ на малакваліфікаваных і некваліфікаваных работах, нават і ў тых галінах, дзе працуе большасьць работніц.

Па БССР мы наглядаем такія факты: на Менскай швэйнай фабрыцы «Кастрычнік», дзе работніцы складаюць 73,8 проц. усіх рабочых (1 014 чалавек), асноўная маса работніц—767 чалавек працуе на 3-м і 4-м разрадах, 139 работніц—на 1-м і 2-м разрадах і толькі адна работніца на вышэйшым—7-м разрадзе і 13—на 6-м.

На Гомельскай запалкавай фабрыцы «Вэзувій» працуе 223 жанчыны, што складае 36 проц. ад агульнага ліку рабочых. Сярод іх няма ні аднэй, якая-б працавала на вышэйшых разрадах. Амаль усе работніцы—200 чалавек—працуюць на 2-м разрадзе, 20 чалавек працуе на 1-м і толькі тры чалавекі—на 3-м.

Слаба пастаўлена работа па падрыхтоўцы кадраў з жанчын як праз фабзавуч, так і праз розныя гурткі, курсы на прадпрыемстве. У фабзавучах

замест 50 проц. жанчын навучаецца ў сучасны момант 16,5 проц.

Наша задача—дабіцца пералому ў справе падрыхтоўкі жаночых кваліфікаваных кадраў.

У дзень 8 сакавіка яшчэ больш мобілізуем шырокія масы работніц на павышэньне працоўнай дысцыпліны, на барацьбу з цякучасьцю, з прагульшчыкамі, зладзеямі, дармаедамі.

Задача работніц, жонак рабочых — прыняць актыўны ўдзел у шэфстве над вёскай, у справе конкрэтнай дапамогі колгасам у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, дабіцца сваячасовай падрыхтоўкі да правядзеньня веснавой сяўбы ў прыгарадных гаспадарках.

Неабходна зьвярнуць увагу на разгортваньне і паляпшэньне якасьці работы дзіцячых устаноў. Для гэтага патрэбна прыцягнуць ініцыятыву, сілы і сродкі бацькоў, дабіцца карэннага перабудаваньня работы дзіцячых устаноў, стварэньня ўласнай харчовай базы і разгортваньня дэцэнтралізаваных загатовак. Неабходна прыцягнуць да справы паляпшэньня становішча ясель савецкія, профсаюзныя і гаспадарчыя організацыі.

Асноўнай задачай міжнароднага комуністычнага жаночага дня на вёсцы зьяўляецца мобілізацыя шырокіх мас колгасьніц і працоўных аднаасобніц на ажыцьцяўленьне задач, пастаўленых студзеньскім пленумам ЦК і ЦКК УсеКП(б) і програмнай прамовай т. Сталіна аб задачах работы на вёсцы, на сваячасовую падрыхтоўку правядзеньня баль-

шавіцкай сяўбы першага году другой пяцігодкі, на барацьбу за павышэньне ўраджайнасьці палёў, асабліва па збожжавых і тэхнічных культурах (лён), на разьвіцьцё соцыялістычнай жывёлагадоўлі, на бязьлітасную барацьбу са шкоднікамі, кулацка-варожымі элемэнтамі, на ахову соцыялістычнай колгаснай маёмасьці, на організацыйнагаспадарчае і політычнае ўмацаваньне колгасаў.

«Цяпер пытаньне стаіць не аб тым, быць ці ня быць колгасам,—гэта пытаньне ўжо вырашана станоўча. Колгасы замацаваны і шлях да старой аднаасобнай гаспадаркі закрыт канчаткова. Цяпер задача заключаецца ў тым, каб умацаваць колгасы **організацыйна,** вышыбіць адтуль шкодніцкія элемэнты, падабраць сапраўдныя, правераныя бальшавіцкія кадры для колгасаў і зрабіць колгасы сапраўды бальшавіцкімі. У гэтым цяпер галоўнае». (Сталін).

Да дню 8 сакавіка неабходна організаваць дэлегатак і жаночы актыў колгасьніц і аднаасобніцбяднячак і сераднячак на масавую праверку і дапамогу колгасам у справе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы: засыпка і ачыстка насеньня, рамонт інвэнтару і машын, збор попелу, вывазка гною, увядзеньне севаабароту, падрыхтоўка бытавых устаноў (дзіцячых садоў, пляцовак, грамадзкага харчаваньня).

Неабходна скарыстаць вытворчы вопыт колгасьніцы ў справе разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва на лепшае правядзеньне ацёлу і апаросу, вырошчваньне і захаваньне маладняку, на павышэньне ўраджайнасьці кармавых культур.

Правільнай організацыяй працы ў колгасах—організацыяй сталых вытворчых брыгад, дабіцца поўнага скарыстаньня жаночай працы ў колгасе, 100-процантнага выхаду кольгасьніц у часе палявых работ, узмацненьне працоўнай дысцыпліны, высокай продукцыйнасьці працы.

Ва ўмовах БССР удзел жанчын у вытворчай працы колгасу мае асаблівае значэньне таму, што на адзін колгас у БССР прыпадае 56 працаздольных жанчын і 51 працаздольных мужчын; па колгасах, якія маюць МТКФ—78 працаздольных жанчын і 71 працаздольны мужчына; па колгасах, якія маюць СТКФ—65 працаздольных жанчын і 61 працаздольны мужчына. Па колгасах, якія абслугоўваюцца МТС—74 жанчыны і 67 мужчын. У той-жа час выхад жанчын на работу яшчэ зусім невялікі. Так, па БССР, 30,1 проц. усіх жанчын выпрацавала за 1932 г. да 50 працадзён.

Наша задача—організаваць масавы паход жанчын на барацьбу за ўраджай па колгасах, саўгасах і МТС, уцягнуць іх у гурткі агротэхнікі, курсы па падрыхтоўцы кадраў для ўсіх галін сельскай гаспадаркі, асабліва для ільнаводзтва і жывёлагадоўлі.

Неабходна рашуча вылучаць лепшых ударніц колгасаў, саўгасаў і МТС брыгадзірамі, загадчыкамі фэрм, старшынямі колгасаў, памятаючы словы т. Леніна, што

> «сярод работніц і сялянак ёсьць у шмат разоў больш, чым нам вядома, **організатарскіх талентаў,** людзей, уладаючых уменьнем **наладзіць** практычную справу, з удзелам вялікага ліку работнікаў і яшчэ большага ліку спажыўцоў».

Соцыялістычнае перабудаваньне сельскай гаспадаркі адбываецца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, кулак разьбіт, але яшчэ не дабіт. Ён мяняе сваю тактыку, пераходзячы ад прамой атакі супроць колгасаў да шкодніцкай работы ціхай сапай; прабіраючыся ў колгасы, ён займае там пасады кладаўшчыкоў, рахункаводаў і раскрадае колгасную соцыялістычную маёмасьць, разлагаючы колгасы з сярэдзіны. У сваёй шкодніцкай рабоце клясавы вораг імкнецца прыцягнуць на свой бок найбольш адсталыя слаі жанчын-колгасьніц. У гэтым яму актыўна дапамагаюць папы і контррэволюцыйныя сэктанцкія групы, скарыстоўваючы векавыя рэлігійныя забабоны. Аб гэтым ня мала фактаў дае нам практыка загатовак і веснавой сяўбы мінулага году. Неабходна мобілізаваць масы колгасьніц, бяднячак і сераднячак-аднаасобніц на бязьлітасную барацьбу з клясавым ворагам, з кулацка-варожымі элемэнтамі вёскі, выкрываючы іх хітрыкі і тактыку, разгарнуць антырэлігійную про-

паганду, высьвятляючы контррэволюцыйную сутнасьць рэлігіі.

У дзень 8 сакавіка яшчэ больш згуртуем работніц і колгасьніц вакол ленінскай партыі яе ЦК і правадыра т. Сталіна, мобілізуем іх на разгортваньне бязьлітаснай барацьбы супроць опортунізму і гнілога лібэралізму, на чоткае правядзеньне генэральнай лініі партыі і ленінскай нацполітыкі, на выкананьне задач першага году 2-ой пяцігодкі.

У дзень 8 сакавіка ўзмоцнім сувязь работніц і колгасьніц СССР з работніцамі і сялянкамі капіталістычных краін, расшырым рады МОПР'у, узмоцнім абароназдольнасьць СССР — бацькаўшчыны сусьветнага пролетарыяту.

---



